**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№24(688)**
**13 чэрвеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

ІП Раманчук Д.С. магазін «Крышталь» УНП 300018852
на вул. Леніна, 114-А
Вокны ПВХ
Алюмініевыя балконныя рамы
Дзверы металічныя і міжпакаёвыя
Гаражныя вароты
высокая якасць, нізкія кошты, зніжкі
замер, дастаўка, устаноўка, без % растэрміноўка аплаты
мтс: (029) 716-28-26

Молодечненские
ОКНА ПВХ
АЛЮМИНИЕВЫЕ РАМЫ + МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ ДВЕРИ
НЕМЕЦКИЙ ПЛАСТИК FORIS (Германия 100%) без свинца
Профессиональный монтаж
Собственное производство
тел. 8 (029) 641-62-94 (velcom); 8 (029( 857-35-43 (мтс)
ООО "Рекомпласт" г. Молодечно, УНП 690450197



**На фэсце ў Лучаі.**
*Фота Альфрэда Мікуса*

## Тры чалавекі патанулі за выходныя ў Віцебскай вобласці

**Тры чалавекі патанулі за мінулыя выходныя ў Віцебскай вобласці, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў абласной арганізацыі ОСВОД.**

Няшчасныя выпадкі на вадзе адбыліся ў Полацку, Глыбокім і Оршы. 8 чэрвеня ў рацэ Палата патануў 39-гадовы жыхар Полацка. На беразе вадаёма кампанія з трох чалавек уладкавала пікнік. Адзін з адпачывальнікаў пасля ўжывання спіртнога вырашыў выкупацца ў рацэ. З вады цела патанулага дасталі сябры. Падобны выпадак адбыўся 9 чэрвеня ў Оршы. У мясцовым возеры ўвечары патануў 23-гадовы мужчына. Па папярэдніх дадзеных, і ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Трэцяй ахвярай вады стаў 70-гадовы пенсіянер з **Глыбокага**. Увечары мужчына пайшоў на вадаём выкупацца, але не разлічыў сілы і патануў.

*БЕЛТА*

В ТОРГОВОЙ СЕТИ «ХОРС-МОТОРС» www.moto-minsk.by www.vales.by HORS MOTORS
НОВОЕ ПОСТУПЛЕНИЕ!!!
AVA MAGNUM
МОТОКУЛЬТИВАТОР М 200 G 9
ГАРАНТИЯ
ЗАПЧАСТИ
СЕРВИС
КРЕДИТ
Двигатель мощностью 9 л.с.
А ТАКЖЕ В ПРОДАЖЕ:
- скутеры;
- квадроциклы;
- бензокосы;
- бензопилы;
- мотокультиваторы;
- сварочные аппараты;
- бензогенераторы;
- мотопомпы;
- компрессоры;
- бетономешалки;
- мотоблоки МТЗ;
- двигатели к мотоблокам МТЗ
БОЛЬШИЕ КОЛЕСА
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ
г. Глубокое, рынок «ОДО Верас», ул. Гагарина, 4
тел.: 8 (033) 320-82-02 8(044) 534-58-74

## МНС інфармуе

**на 11.06.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 525;
Гібель людзей – 71, з іх 1 дзіця;
Урон – 2431,9 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 28;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 123.4 руб.

ноутбуки
В наличии и под заказ
ИП Ковгач Е.К. УНП 390487450
Asus, Dell, Lenovo, Samsung. Всегда в наличии 15-20 моделей.
А также цифровые фотокамеры, навигаторы, бытовая техника.
магазин на Ленина, 7-А
ABC
2-11-55
Кредит на 2 года без первого взноса

Московские цены и наличие в Глубоком! Более 14 000 товаров!
Хочешь современный компьютер?
Легко!
www.NIX2.by
613-22-23
8 02156 50460
г. Глубокое, ул. Ленина, 44а, ТЦ «Для Вас»
НИКС КОМПЬЮТЕРНЫЙ СУПЕРМАРКЕТ
ООО «НиксПробай» УНП 391375631
* - без учета расходов на перевозку

Кредит до 36 месяцев без первоначального взноса с правом досрочного погашения.
ЧП "ОкнаХом" УНП 691403311
Оформление на дому.
Бесплатно: обмер, доставка, консультации.
Собственное производство.
Гарантия до 36 месяцев.
Мы пришли всерьёз и надолго!
мтс: (029) 516-20-21
Окна и двери ПВХ
металлические и межкомнатные

Предприятию «ИК 13-Березвечье» для работы требуются:
• Начальник производства (с опытом работы не менее 5 лет, до 45 лет; з/пл. от 4 млн, руб.)
• Начальник ПСХ (до 45 лет, образование высшее; з/пл. от 3,8 млн. руб.)
• Инженер-технолог (металлообработка, деревообработка; образование средне-техническое, высшее; з/пл. от 4 млн. руб.)
• Инженер-энергетик (з/пл. от 3,5 млн. руб.)
• Инженер по организации и нормированию труда (з/пл. от 3,7 млн. руб.)
• Водитель автомобиля (з/пл, 3 млн. руб.)
• Рабочий по комплексному обслуживанию и ремонту зданий и сооружений (з/пл. от 2,5 мли, руб.)
• Слесарь-электрик по ремонту электрооборудования (з/пл. от 2,5 млн. руб.)
• Вальщик леса (з/пл. от 5,7 млн. руб.)
тел.: 8 (02156) 2-90-79; 2-91-54; 2-91-30
УНП 390184468

■ **А.І. Гігола,**
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

## Назіраецца штомесячны рост колькасці забойстваў

З пачатку гэтага года на тэрыторыі Віцебскай вобласці выразна прасочваюцца негатыўныя тэндэнцыі, звязаныя са здзяйсненнем асоба цяжкіх і цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзян. Нягледзячы на меры, якія прынімаюцца органамі ўнутраных спраў, назіраецца штомесячны рост колькасці забойстваў і прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

На тэрыторыі г. Глыбокае за пяць месяцаў 2013 года былі зарэгістраваныя 2 цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзян, прадугледжаныя арт. 139 КК Рэспублікі Беларусь (Забойства), адно з якіх здзейснена ў сферы сямейна-бытавых адносін. Асноўнымі прычынамі здзяйснення такіх дзеянняў з'яўляюцца п'янства і працоўная незанятасць насельніцтва.

Па распараджэнні УУС Віцебскага аблвыканкама «Пра прыняцце дадатковых мер па папярэджанні забойстваў, замахаў на забойствы і цяжкіх цялесных пашкоджанняў» на тэрыторыі г. Глыбокае і раёна, як і на тэрыторыі ўсёй Віцебскай вобласці з 03 чэрвеня па 30 жніўня 2013 года праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на фарміраванне здаровага ладу жыцця, прывіццё пачуцця няцерпнасці да злоўжывання алкаголем, сямейнага няшчасця, асацыяльных паводзін грамадзян.

Кожны чалавек, які паведаміць у Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: **597-21-74 (МТС), 314-89-02 (Велком), 2-27-02 ці 102** пра факты гвалту ў сям'і, замаху на жыццё і здароўе грамадзян і іншых супрацьпраўных дзеяннях у адносінах асобы, можа прыняць удзел у дадзеным мерапрыемстве і аказаць пацярпелым дапамогу.

ІП Чубінскі Е.Г.; УНП 391050215
магазін «Фаварыт»
мтс: (029) 732-73-00;
мтс: (029) 539-73-00
мтс: (033) 695-88-36
на Маскоўскай, 10, 2-гі паверх
- камп'ютары,
- ноўтбукі,
- камплектуючыя,
- аргтэхніка,
- аксесуары,
- рамонт і абслугоўванне,
- запраўка і рамонт картрыджаў
Без % крэдыт
- фотаапараты, - тэлефоны, – ВК тэлевізары

САЙДЫНГ
у наяўнасці і пад заказ
УНП 391050231
магазін «Керамо Маркет»
вул. Чырвонаармейская, 78 А
Дастаўка
2-82-57; 8 (029) 899-99-35

Мёрскі раён

# Ёсць аб'екты – будуць кадры

■ Станіслаў Раманчук

**У большасці айчынных бударганізацый зараз існуюць пэўныя цяжкасці і адчуваецца недахоп кваліфікаваных работнікаў, інжынерна-тэхнічных спецыялістаў.**

Не пазбег гэтых праблем і калектыў Мёрскай ПМК-55, хоць свой касцяк кадраў ён захаваў пасля павышэння заробкаў. У гэтым годзе зарплаты ў будаўнікоў з леташніх сярэднямесячных 4 млн. рублёў павінны павялічыцца да 6 мільёнаў, а галоўнае, што і адказных заказаў у ПМК хапае. Самы важны аб'ект – гэта, канешне ж, новая раённая бальніца, якая з'яўлялася доўгабудам. Як базавае прадпрыемства, мясцовыя будаўнікі выконваюць значны аб'ём работ і прыкладаюць намаганні, каб патрэбная людзям клініка хутчэй увайшла ў строй, стала ўпрыгожваннем райцэнтра. Праўда, цяпер значна меней стала ўзводзіцца жылля ў сельскай мясцовасці і для калектыва калоны пабудаваць 5 катэджаў сядзібнага тыпу – не такая і складаная задача. Тыя, хто з'ехаў на будоўлі за мяжой, па меры росту даходаў дома вяртаюцца на радзіму, бо яны патрэбныя. У самім горадзе павінны да восені здаць і яшчэ адзін шматкватэрны жылы дом. Нават зімой на гэтым аб'екце працавалі ў некалькі змен, каб укласціся ў нарматыўныя тэрміны будаўніцтва за 8 месяцаў пяціпавярхоўкі на 40 кватэр. На дапамогу паклікалі і будаўнічыя брыгады з суседніх Шаркоўшчыны і Верхнядзвінска. У выніку нават у неспрыяльны перыяд года паспявалі за месяц узводзіць па паўтара паверха. Садзейнічала росту прадукцыйнасці працы і тое, што новабудоўля размясцілася побач з вытворчай базай бударганізацыі, якая можа ганарыцца сваёй новай пабудаванай вуліцай, названай у гонар героя, адмірала-падводніка Ягора Томка.

Пастаўскі раён

# Здзекі над людзьмі і жывёлай

■ Кастусь Александровіч

**Цёплы час года заўсёды застаецца перыядам вялікага малака, калі на полі багата кармоў - рэзка павялічваліся надоі.** Спадзяваліся і ў Пастаўскім раёне пасля выгану гуртоў на пашу паправіць незайздроснае фінансавае становішча большасці гаспадарак. Аднак сёлета з-за ўмоў надвор'я практычна супалі не толькі веснавая сяўба, але і вясенне-пашавы перыяд , і высветлілася шмат вузкіх месцаў. Усюды пазней на тыдзень, чым летась, змаглі выгнаць калгасны статак у поле, а апошнімі справіліся з гэтай задачай працаўнікі сельгасфіліяла "Груздава" аграбудпрадпрыемства "Рассвет Пастаўскі". Асабліва не пашчасціла ягонай ферме «Сакалова», у якой некалькі дзясяткаў цельных цялушак больш тыдня стаялі амаль па калена ў гноевай жыжцы. Дарабіліся да таго, што нечыстоты не было каму выдаляць, а потым паламалася стужка гноевага транспарцёра. Толькі пасля ўмяшання раённага начальства статак з фермы перавялі на пашу і на выгульны двор. Дарэчы, і зімой у раёне назіралася падзенне надояў, гаспадаркі страцілі больш 4 млрд. рублёў ад слабай якасці рэалізуемай прадукцыі. Цяпер на зялёных лугах па-ранейшаму выяўляюцца факты дзіўнай безгаспадарчасці: то ваду жывёле забудуцца падвезці, то пакінуць яе без солі, хоць яна ёсць у наяўнасці, то пастухі выконваюць свае абавязкі абы-як. Такі малюнак назіраўся на палетках сельгаспрадпрыемстваў "Парыж-агра", Райаграсервіса, "Дунілавічы-агра" і іншых. Пакуль на зямлі не з'явіцца гаспадар, кардынальна палепшыць справы ў калгаснай жывёлагадоўлі будзе складана.

Лепельскі раён

# Ёсць таленты ў глыбінцы

■ Чэслаў Якубовіч

**Амаль праз чвэрць стагоддзя славутая ў мінулым гандбольная каманда СКА (Мінск) зноў вярнула сабе званне адной з мацнейшых у Еўропе і заваявала "Кубак выкліку".**

За нядаўнім фінальным матчам гэтага турніру з асаблівым інтарэсам назіралі па тэлебачанні ў Лепельскім раёне, бо сярод армейцаў гуляў іх зямляк, 21-гадовы малады варатар Іван Мацкевіч. Ягоная гульнявая пазіцыя – адна з ключавых у гульнявых відах спорту. У бліскучую перамогу мінчан у фінальных паядынках і на папярэдніх этапах кубкавага розыгрышу ўклад Вані таксама значны. Справа ў тым, што яшчэ год назад малады армейскі клуб быў практычна поўнасцю расфарміраваны, але яму пашчасціла, што сюды прыйшлі трое знакамітых ігракоў дынамаўцаў. Прыйшоўся добра да двару СКА і ўліўся паспяхова ў калектыў і выхаванец трэнера Лепельскай СДЮШАР Аляксандра Бельскага. Каб дабіцца такога трыумфу, Івану і ягоным партнёрам пад кіраўніцтвам славутага настаўніка чэмпіёнаў Спартака Міранавіча прыйшлося праліць шмат поту на трэніроўках. Аднак у выніку ўдалося перамагчы сваіх сапернікаў з Эстоніі, Італіі, Сербіі, Нарвегіі і Люксембурга, а потым шчасліваму лепельскаму хлопцу перапрануцца ў "залатыя" майкі пераможцаў і патрымаць у руках прэстыжны Кубак. Будзем спадзявацца, што неўзабаве перад Іванам Мацкевічам адкрыюцца і вароты нацыянальнай зборнай Беларусі па гандболе.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 13.06.13 | | | | Пятніца 14.06.13 | | | | Субота 15.07.13 | | | | Нядзеля 16.06.13 | | | | Пнд.17.06.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +16 | +20 | +15 | +11 | +18 | +22 | +17 | +9 | +14 | +19 | +15 | +8 | +17 | +22 | +17 | +14 | +17 | +21 |
| Ціск | 751 | 752 | 751 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 748 | 747 | 748 | 748 |
| Вільготнасць | 93 | 74 | 51 | 83 | 83 | 69 | 47 | 71 | 92 | 74 | 50 | 77 | 89 | 65 | 44 | 74 | 82 | 81 | 50 |
| Вецер м/сек | 1 З | 0 ШТЛ | 2 З | 2 Пд-З | 4 Пд | 5 Пд | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 4 З | 5 З | 5 З | 3 З | 3 Пд-З | 3 Пд | 4 Пд-З | 3 Пд | 4 Пд-З | 3 З | 3 Пн-З |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСКАЯ ЭКАНОМІКА БЫЦЦАМ І ПРАЦУЕ НЯДРЭННА, АЛЕ КАТОРЫ МЕСЯЦ РАСТУЦЬ НА СКЛАДАХ ЗАПАСЫ НЕПРАДАДЗЕНАЙ ПРАДУКЦЫІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Заробкі нашы хутка растуць, хоць і гучаць патрабаванні не забяспечваць іх неабгрунтавана, а вось працаваць у асноўным толькі на склад – так доўга працягвацца не можа.**

У нас стала правілам спадзявацца, што розныя ўзнікаючыя жыццёвыя праблемы можна вырашыць з дапамогай найперш адміністрацыйнага рэсурса. Вось і напрыканцы мая было аб'яўлена аб правядзенні спецыяльнай нарады на вышэйшым узроўні па пытаннях рэалізацыі тавараў беларускай вытворчасці і па разгрузцы складоў айчынных прадпрыемстваў. Справа ў тым, што і ў красавіку, па афіцыйных дадзеных Белстата, сітуацыя з непрададзенымі беларускімі таварамі працягвала пагаршацца.

Іх запасы за гэты веснавы месяц зноў выраслі яшчэ больш чым на 1 трыльён рублёў і дасягнулі гіганцкай сумы – 33,359 трлн. рублёў (да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці 82,4 %). Дарэчы, летась на 1 мая такі паказчык быў значна лепшы - 49,7 %. Цікавы факт, у дзяржаўных СМІ, якія змясцілі інфармацыю аб сустрэчы прэзідэнта з прэм'ер-міністрам па дадзенай праблеме, ніякіх канкрэтных лічб не прыводзілася.

Гэта і зразумела, бо такі факт можна выкарыстоўваць як падставу сцвярджаць аб пэўных крытычных з'явах у эканоміцы Беларусі, а мы ганарымся, што і сёлета забяспечылі прафіцыт бюджэта, захоўваецца стабільнае становішча на валютным рынку. І толькі злыя языкі могуць сцвярджаць, што звесці канцы з канцамі ў плацёжным балансе Беларусі ўдалося пасля атрымання чарговага 4-га транша стабілізацыйнага крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у памеры 440 млн. долараў.

Праўда, і кіраўнік краіны А. Лукашэнка пагадзіўся, што на "пары прадпрыемстваў, па якіх трэба прымаць рашэнні" – сітуацыя ўжо крытычная. А па астатніх флагманах індустрыі, па яго словах, такая абстаноўка склалася з-за "прасеўшай Еўропы і іншых заходніх рынкаў", а таксама з-за пазіцыі Расіі і яе спроб абараніць сваіх вытворцаў тавараў, у тым ліку і сельгастэхнікі, насуперак узятых абавязацельстваў у рамках Мытнага саюза. Адначасова беларускі лідар адразу знайшоў выйсце з гэтай сітуацыі і прапанаваў аддаць "лішнія трактары сельгасарганізацыям" на пэўных умовах з аплатай у растэрміноўку да канца пяцігодкі.

На наступны дзень кіраўнік Беларусі падчас паездкі па роднай Магілёўшчыне развіў гэту тэму і загаварыў і аб зніжках тым, хто "купіць адразу" ўсю гэту тэхніку з перапоўненых складоў. Здаецца, падобным чынам мы ўжо дзейнічалі некалькі гадоў назад, толькі цяпер яшчэ ідуць палявыя работы. Але аграрыяў папярэдзілі, што дзяржпадтрымка не будзе мець паўсюдны характар і за тэхніку прыйдзецца заплаціць, дарма яе не аддадуць. Забараніў А. Лукашэнка і траціць валюту на закупкі азотных угнаенняў за межамі краіны, паколькі патрэбна захаваць золатавалютныя рэзервы.

І ўвогуле трэба нам захоўваць аптымізм, верыць у светлую будучыню , паколькі невядомыя незалежныя эксперты кантралююць сітуацыю па даручэнні беларускага лідара. Прэзідэнт аднак нагадвае ўсім, што трэба жыць па сродках. Яго памочнік на Віцебшчыне А. Косінец даручыў у раёнах нават пачаць працу па стварэнні фінансавых рэзерваў і назапасіць не меней 200 млрд. рублёў, паколькі на падтрымку гаспадарак вобласці ў пачатку мая ўжо зрасходавалі 65 % запланаваных сродкаў на год.

Ну, гэта зразумела, многія беларускія калгасы без гэтага не пражывуць, яны і так у сваёй большасці ледзь зводзяць канцы з канцамі і якім чынам змогуць набыць тэхніку, а гэта грузавікі і трактары МАЗа, МТЗ, камбайны "Гомсельмаша" і "Лідсельмаша", агрэгаты "Бабруйскаграмаша" незразумела, паколькі закрэдытаваны па вушы. І ўвогуле пачуццё , скажам так, пэўнай заклапочанасці прысутнічае, калі назіраць пільна за развіццём эканамічных падзей. Баланс па пастаўках расійскай нафты ў Беларусь на другое паўгоддзе не падпісаны і Крэмль трымае нас на кароткім павадку.

А яшчэ і абвастрыліся супярэчнасці Беларусі з Украінай наконт паставак украінскай карамелі і беларускага мяса. Леташні перадзел уласнасці і фактычна нацыяналізацыя кандытарскіх фабрык "Камунарка" і "Спартак" выклікаў пэўныя праблемы, галоўнае прыкметна скараціліся іх экспарт і нават продажы на ўнутраным беларускім рынку, хоць каторы месяц беларускія фабрыкі цукерак праводзяць акцыі і зніжкі да 25 % на свае вырабы. Між тым на фоне растучых запасаў тавараў на складах зарплата беларусаў павялічылася ў красавіку на 23 долары і дасягнула па краіне 564 у. а. Заробкі нашы хутка растуць, хоць і гучаць патрабаванні не забяспечваць іх неабгрунтавана, а вось працаваць у асноўным толькі на склад – так доўга працягвацца не можа.

## Дзень за днём

**Услед за дзяржслужачымі ў Беларусі істотна скароцяць і колькасць настаўнікаў у рамках аптымізацыі сістэмы адукацыі. Палова беларускіх сем'яў жыве на даходы 1-2,5 млн. рублёў на чалавека ў месяц. Сёлета ВНУ Беларусі прымуць на вучобу амаль 80 тысяч студэнтаў-першакурснікаў, але з іх – толькі 30 тысяч на бюджэт. Напрыканцы вясны ў нас падаражэў першы раз праезд у грамадскім транспарце, новае павышэнне тарыфаў яшчэ пройдзе да канца года, сталі даражэй і цыгарэты. Выдаваць дазволы беларусам на ўстаноўку спадарожнікавых талерак стануць бясплатна, самавольна іх ставіць цяпер нельга.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя**. З мэтай спыніць незаконнае пранікненне ў краіну ўрад вырашыў пабудаваць сцяну на сірыйскай граніцы даўжынёй 2,5 кіламетры з калючым дротам, таксама плануецца ўсталяваць камеры назірання.

**Кыргыстан**. Пад уплывам Расіі і спісання ёй амаль 0,5 мільярда долараў даўгоў урад краіны дэнансаваў пагадненне з ЗША аб размяшчэнні з 2015 года авіябазы ў Бішкеку.

**ЗША**. Шматлікія чалавечыя ахвяры прынесла серыя тарнада, асабліва пацярпелі ад буйства стыхіі 4 штаты краіны і прыгарад Аклахома-Сіці, дзе смерч знішчыў усе будынкі паласой 30 кіламетраў даўжыні.

**Расія**. Падчас чарговага двайнога тэракту ў сталіцы Дагестана Махачкале ля будынка службы судовых прыставаў загінула ад выбухаў 8 чалавек, было шмат параненых.

**Казахстан.** Парламент краіны павысіў пенсійны ўзрост для жанчын за наступныя 10 гадоў з 58 да 63 гадоў, казахі мужчыны цяпер ідуць на заслужаны адпачынак у 63 гады.

**Англія.** Пасля жорсткага забойства мусульманамі 25-гадовага салдата на вуліцы ў Лондане па краіне пачаліся маніфестацыі абурэння і нават нападзенні на мячэці.

**Швецыя.** Падчас хваляванняў маладыя мігранты-ісламісты падпалілі ў прыгарадах Стакгольма 2 школы, паліцэйскі ўчастак, спалілі да ста легкавых аўтамабіляў шведаў.

**Афганістан.** Спецслужбы ЗША і Расіі правялі 9-ю па ліку сумесную аперацыю за 2,5 гады і ў правінцыі Кундуз знішчылі яшчэ 4 лабараторыі па вырабу наркотыкаў.

**Індыя.** Пасля вяртання з мітынга ў аддаленым раёне трапіла ў лесе ў засаду мааістаў група палітыкаў з партыі Індыйскі нацыянальны кангрэс, забілі 24 з іх, каля 40 цяжка паранілі.

**Францыя.** У знак пратэсту супраць закона аб легалізацыі аднаполых шлюбаў ля алтара славутага сабора Парыжскай Богамаці застрэліўся 77-гадовы французскі гісторык.

**Сербія.** Урад правёў цырымонію перапахавання ў сямейны маўзалей апошняга караля Югаславіі з 1941 года ў выгнанні Пятра II і яшчэ трох членаў гэтай каралеўскай сям'і.

**Мексіка.** Вечарам на дарозе ў штаце Ідальга лопнула кола ў аўтобуса, ён перавярнуўся, у выніку дарожна-транспартнага здарэння загінулі 16 турыстаў, з іх 2 дзяцей, яшчэ 20 чалавек атрымалі розныя траўмы.

**Расія.** Расійскае кіно страціла яшчэ двух сваіх майстроў: мэтра рэжысуры, франтавіка Пятра Тадароўскага і таленавітага Аляксея Балабанава, які пайшоў з жыцця ў 55 год.

**Францыя.** Пераможцам 66-га Канскага кінафестывалю стаў фільм "Жыццё Адэль" пра каханне дзвюх дзяўчат-лесбіянак, восенню стужку плануюць паказаць і ў Беларусі.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск сустрэўся з Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Беларусі Тадэвушам Кандрусевічам, беларусы чакаюць прыезду пантыфіка.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Дэлегацыя ўрада Беларусі на чале з У. Сямашка правяла закрытыя перамовы ў Расіі аб магчымым стварэнні холдынга з КамАЗам, але А. Лукашэнка супраць праекта.

**Бабруйск.** На новай лініі завода "Белшына" выпусцілі юбілейную мільённую мадэль шыны сусветнага стандарту для легкавых аўтамабіляў з прабегам да 70 тысяч кіламетраў.

**Салігорск.** Не раней II квартала 2014 года, як пацвердзілі партнёры з РФ, зможа працаваць новы сумесны праект "Беларуськалія" і "Уралкалія" – трэйдынгавая фірма "Саюзкалій".

**Горкі**. Камітэт Дзяржкантролю выявіў завышэнні цэн у будаўнічых арганізацыях сталіцы мінулагодніх "Дажынак-2012" на 1 млрд. рублёў, работы там вяліся ў аўральным рэжыме.

**Мінск.** Фінансавы стан гаспадарак краіны з буйнымі жывёлагадоўчымі комплексамі сёлета сур'ёзна пагоршыўся, пацвердзілі ў Мінсельгасхарчы РБ, з іх 16 сталі стратнымі

**Шклоў.** Да канца 2015 года, як пацвердзіў нам. главы Мінсельгасхарча РБ Васіль Паўлоўскі, будуць ліквідаваны 12 льнозаводаў, пакінуць 30 з 42, а 18 з іх мадэрнізуюць.

**Шчучын.** На мясцовай рэпрадуктарнай птушкафабрыцы запусцілі новы сучасны інкубатар па вырошчванні сутачных куранят яйцаноскіх парод да 350 яек у год.

**Дзятлава.** Па невядомай прычыне, а магчыма і з-за падпалу раніцай у вёсцы Скрундзі згарэў аднаўлены людзьмі і калгасам у 1990 годзе драўляны касцёл св.ятога Міхаіла Архангела.

**Магілёў.** На чыгуначным пераездзе ля горада пасажырскі цягнік сутыкнуўся з машынай-бетонамяшалкай, зляцелі з рэек 4 вагоны, загінуў кіроўца-азербайджанец з пасажырам.

**Гомель.** Былы мэр горада і яшчэ 4 яго падзельнікі па крымінальнай справе аб кватэрных махінацыях звярнуліся з хадатайніцтвам аб памілаванні, усё жыллё яны вярнулі дзяржаве.

**Брэст.** Неспадзяваным госцем гарадскога парку культуры і адпачынку стала ласіха з … суседняй Польшчы, звера "нелегала" адправілі ў мясцовы лясгас пад нагляд спецыялістаў.

**Лунінец.** На падпітку 22-гадовая маладая маці ў адсутнасць дома мужа і дзяцей выпала з акна кватэры на 6-м паверсе, цудам трапіла ў бальніцу толькі з некалькімі ўшыбамі.

**Мядзел.** Пад суд пойдуць браканьеры, якіх затрымалі на возеры Нарач падчас лоўлі рыбы электратокам, зламыснікам удалося так знішчыць 11 вугроў, але імі яны не паспелі паласаваціца.

**Мінск.** На будучым чэмпіянаце свету-2014 па хакеі яго ўдзельнікі змогуць бясплатна ездзіць у грамадскім транспарце, а госці з-за мяжы больш месяца – знаходзіцца ў РБ без віз.

**Брэст.** На спаборніцтвах рэспубліканскай універсіяды па лёгкай атлетыцы раптоўна памёр 53-гадовы заслужаны трэнер Беларусі і дацэнт БНТУ Павел Трашчыла.

## Пракурор Віцебскай вобласці прапанаваў рэанімаваць раскулачванне



■ Генадзь Закржэўскі, «Штодзённік»

**Пракурор Віцебскай вобласці, прапанаваў увесці канфіскацыю маёмасці людзей, якія не могуць растлумачыць, за якія грошы набытыя дарагія дамы і машыны.**

За 4 месяцы гэтага года ў Віцебскай вобласці здзейснена 149 злачынстваў карупцыйнай накіраванасці. Больш за палову з іх - хабары.

Гэтыя лічбы прыводзіліся на паседжанні «круглага стала» ў пракуратуры Віцебскай вобласці, за якім пракуроры разам з бізнесменамі, прамыслоўцамі і прадстаўнікамі органаў улады шукалі сумесныя шляхі барацьбы з карупцыяй. У ходзе пасяджэння адзначалася, што колькасць выяўленых злачынстваў карупцыйнай накіраванасці ў Віцебскай вобласці расце трэці год запар і зачыняць вочы на гэтую праблему ўжо проста непрыстойна.

Людзі за хабар уладкоўваюцца на працу, здаюць экзамены, атрымліваюць бальнічныя лісты, праходзяць дзяржтэхагляд ... Часцей за ўсё, па дадзеных пракуратуры Віцебскай вобласці, карупцыйныя злачынствы фіксуюцца ў сферах прамысловасці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі, установах аховы здароўя і адукацыі.

Як адзначыў пракурор Віцебскай вобласці Генадзь Дыско, антыкарупцыйнае заканадаўства мае патрэбу ва ўдасканаленні. У прыватнасці, ён прапанаваў зрабіць абавязковай канфіскацыю маёмасці пасля асуджэння чалавека за карупцыйнае злачынства. Пакуль гэтая норма ўжываецца не ва ўсіх выпадках. Акрамя таго, пракурор звярнуў увагу на тое, што асобныя нашы суграмадзяне маюць шыкоўныя асабнякі і дарагія іншамаркі, афіцыйна атрымліваючы нязначны прыбытак. Ён прапануе ўнесці ў заканадаўства норму, якая абавяжа такіх грамадзян даказаць атрыманне імі сродкаў на дарагія набыцці, а ў выпадку, калі гэта даказаць немагчыма, увесці канфіскацыю дарагой маёмасці ў даход дзяржавы, без якіх-небудзь доказаў, што гэтыя маёмасныя выгады набыты злачынным шляхам.

Варта адзначыць, што падобная прапанова ідзе насуперак з асноватворным прынцыпам крымінальнага судаводства - прэзумпцыяй невінаватасці, паводле якой, чалавек не павінен даказваць, што ён не злачынца. Менавіта па такім прынцыпе вялося раскулачванне сялян у часы Сталіна, калі для канфіскацыі маёмасці хапала толькі аднаго факту, што чалавек жыве лепш за іншых.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Навапалацк.** З-за спынення пад ціскам Расіі сумнiўнага "бізнесу растваральнікаў" на "Нафтане" і ТАА "Інтэрсэрвіс" бюджэт вобласці недаатрымае сёлета 880 мільярдаў рублёў.

**Шуміліна.** На дарозе на Віцебск раніцай у выніку ўдару фуры трагічна загінулі ў службовым аўто чацвёра жанчын - медыкаў Полацкай гарбальніцы ва ўзросце 45-50 гадоў.

**Полацк.** Пасля трагедыі з чатырма мясцовымі доктарамі ўсе святочныя мерапрыемствы з нагоды 1151-годдзя і Дня горада былі адменены, што з разуменнем успрынялі гараджане.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец даручыў у кожным раёне захоўваць рэжым жорсткай эканоміі сродкаў і стварыць рэзервны фонд фінансавання расходаў яшчэ 200 мільярдаў рублёў.

**Верхнядзвінск.** На пункце мытнага афармлення "Бігосава-1" яе супрацоўнікі выявілі ў фуры з прыцэпам партыю кантрабанднага грузу коштам больш 1 мільярд рублёў.

**Пастаўы.** Па пятніцах, нядзелях, на святы і перадсвяточныя дні пачаў курсіраваць новы хуткасны дызель-цягнік "Полацк-Паставы-Полацк", рэйс зручны для людзей і студэнтаў.

**Дзісна.** У самым малым горадзе Беларусі правёў прыём грамадзян старшыня Камітэта Дзяржаўнага кантролю РБ Аляксандр Якабсон у рамках маніторнгу работы з насельніцтвам.

**Расоны.** Супраць 24-гадовага жыхара вёскі Краснаполле распачалі крымінальную справу за ўгон калгаснага трактара, на ім ён зляцеў позна вечарам у кювет, урэзаўся ў апору лініі электраперадач.

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці запатрабавала па праграме "Чыстае поле" ўвесці ў абарот яшчэ 100 тысяч гектараў зарослых хмызняком участкаў, на сенакос пашлюць 1500 гараджан.

**Шуміліна.** Неўзабаве пасля трагедыі з чатырма ўрачамі ля вёскі Язвіна мясцовага 27-гадовага беспрацоўнага з-за яго неасцярожнасці збіў насмерць вадзіцель з Віцебска.

**Орша.** Пасля абрыву пажарнай лесвіцы Бабініцкай СШ трагічна загінуў падпіты 19-гадовы студэнт адной з расійскіх ВНУ, яго сябар трапіў у рэанімацыю на дні нараджэння.

**Віцебск.** Ля аўтавакзала пачаліся работы па рэканструкцыі маста над чыгуначным палатном, без спынення руху транспарту за 4 гады зробяць 17 апор даўжыняй 369 метраў.

**Лёзна.** Творчы вечар вядомага паэта Давіда Сімановіча прайшоў у Крынкаўскай СШ, у якой ён адпрацаваў настаўнікам 5 гадоў пасля заканчэння педінстытута.

**Шуміліна.** Выхаванец мясцовай ДЮСШ Арцём Масько быў прызнаны лепшым ігракам турніру Алімпійскіх гульняў моладзі Беларусі па валейболе, каманда вобласці стала 2-й.

**Віцебск.** Разбежка цэн на канцэрты "Славянскага базару" сёлета будзе складаць ад 50 да 1 мільёна рублёў, у гэтым годзе зменіўся дырэктар фестывалю і скараціліся тэрміны яго правядзення.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Сцепаніда Лупач:

# Дзякуючы майму хлебу, у царквы з'явіліся гэтыя званы



■ Зміцер Лупач

**Імя жыхаркі вёскі Дзеркаўшчына Сцепаніды Лупач за мінулы год стала вядомым не толькі ў Беларусі, але і за межамі нашай краіны. Яе рэцэпт прыгатавання ржаного хлеба ўключаны ў спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей.**

Яе хлебам кармілі нават пілігрымаў у Іерусаліме. Яшчэ да таго, як хлеб Сцепаніды Аляксандраўны стаў шырока вядомым, без яго не абыходзілася ні адно свята ўраджаю ў ААТ "Канстанцінаў Двор". Пра тэхналогію яго прыгатавання і смакавыя якасці за мінулы год напісалі ці не ўсе беларускія сродкі масавай інфармацыі. Ды і не толькі беларускія… Інфармацыю пра цудоўны хлеб Сцепаніды Лупач аўтару даводзілася чытаць і на ўкраінскіх, і расійскіх інфармацыйных сайтах.

Але мне хочацца распавесці яшчэ пра адну гісторыю, звязаную з гэтым хлебам, якую я пачуў сёлета з вуснаў самой Сцепаніды Аляксандраўны. Дзякуючы яе хлебу, у Дзеркаўшчынскай царкве святога Панцеляймона з'явіліся званы.

Тут варта адзначыць, што Сцепаніда Лупач знакамітая ў нашай мясцовасці не толькі сваім хлебам, але і тым, што ў многім, дзякуючы яе намаганням, у вёсцы Дзеркаўшчына паўстаў праваслаўны храм.

Будаўніцтва праваслаўнай царквы спадарыня Сцепаніда стала дабівацца, калі яшчэ працавала ў вёсцы Завараты загадчыцай клуба. Першапачаткова храм было вырашана будаваць у Заваратах, дакладна на тым месцы, дзе ён стаяў да пажару 1986 года. Быў складзены праект, для будаўніцтва быў выдзелены лес, пачаліся працы па заліўцы падмурка.

Але паколькі ў Заваратах і навакольных вёсках амаль няма праваслаўнага насельніцтва, ды і колькасць каталіцкага імкліва зніжаецца, было прынятае рашэнне пабудаваць царкву ў вёсцы Дзеркаўшчына. Для храма было выдзелене памяшканне недабудаванай фірменнай крамы ААТ "Канстанцінаў Двор". Вялікую дапамогу ў будаўніцтве храма аказалі глыбоцкія раённыя ўлады, асабліва хацелася б адзначыць тагачаснага кіраўніка "Канстацінавага Двара" Віктара Асона. На жаль, ён заўчасна пайшоў з жыцця і не дачакаўся асвячэння храма. Але ў тым, што гэта царква зараз стаіць у Дзеркаўшчыне, вельмі вялікая яго асабістая заслуга.

Несумненна, трэба адзначыць і нашу гераіню, Сцепаніду Лупач. Яна асабіста збірала грошы для будаўніцтва, даставала і захоўвала будаўнічыя матэрыялы, дамаўлялася з рабочымі.

У лістападзе 2011 года царкву ў вёсцы Дзеркаўшчына асвяціў архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій. Але ж храм і навакольную тэрыторыю патрэбна падтрымліваць у належным стане. І тут вельмі спатрэбілася ініцыятыўнасць і гаспадарчасць Сцепаніды Аляксандраўны. Прыцаркоўная тэрыторыя невялікая, але вельмі дагледжаная: тут і кветкі растуць, і каменныя грыбы стаяць, якія жанчына выклала сваім рукамі.

**Яе хлебам кармілі нават пілігрымаў у Іерусаліме.**

"Улада шмат дапамагае, – кажа Сцепаніда Лупач, – вось нядаўна яшчэ ніяк не маглі мы паклясці асфальт каля царквы, але я схадзіла на прыём да кіраўніка раёна Алега Морхата, і, дзякуй яму, асфальт вельмі хутка палажылі."

Яшчэ ў яе планах зрабіць каля храма невялікую аўтамабільную стаянку, падвесці ваду. "Цяжкавата мне ўжо ў маім узросце, ногі баляць, – прызнаецца яна, – хацелася б, каб хто з маладзейшых пераняў у мяне гэту эстафету. Але пакуль няма жадаючых, даводзіцца працаваць самой." Якраз падчас нашай гутаркі Сцепаніда Аляксандраўна пакзвала трактарысту, дзе выгрузіць камяні для будучай аўтамабільнай стаянкі.

Тады ж яна і распавяла мне, як у дзеркаўшчынскага храма з'явіліся званы. Гэтаму паспрыяла яе знаёмства з Васілём Хралом, на той час дэпутатам Палаты Прадстаўнікоў. "Неяк ён прыязджаў у Глыбокае, пакаштаваў майго хлеба, і ён яму вельмі спадабаўся. Некалькі разоў я пякла хлеб для яго. У якасці падзякі ён ахвяраваў гэтыя званы для нашай царквы. Так і з'явіліся ў нас званы, дзякуючы майму хлебу."

**Васіль Хрол пакаштаваў майго хлеба, і ён яму вельмі спадабаўся. У якасці падзякі ён ахвяраваў гэтыя званы для нашай царквы.**

Пра Васіля Храла спадарыня Сцепаніда гаворыць шмат добрых слоў, узгадвае, што акрамя званоў ён ахвяраваў для ўпрыгожвання купалоў мільён рублёў (да апошняй дэвальвацыі – **З. Л.**)

Дзякуючы старанням Сцепаніды Лупач храм вельмі прыгожы і ўнутры. І хоць ён невялікі, пачуваешся ў ім вельмі ўтульна. Сцепаніда Аляксандраўна распавядае пра кожную ікону, хто ахвяраваў яе храму, адкуль прывезеная, чым знакамітая, паказвае пакойчык, які яны абсталявалі для хрышчэння немаўлят. Вось толькі сумна, што дзяцей у вёсках з году ў год становіцца ўсё менш.

Напрыканцы хочацца пажадаць спадарыні Сцепанідзе моцнага здароўя, каб здзейсніліся яе планы, каб водар яе хлеба парадаваў яшчэ шмат людзей.

Сцепаніда Аляксандраўна Лупач родам з заходняга Палесся, ужо больш за пяцьдзясят гадоў жыве ў вёсцы Дзеркаўшчына. Працавала на цагельным заводзе, прадаўцом у краме, рахункаводам у сельскім Савеце, кухарам у школе. Доўгі час працавала ў культурнай сферы: была памочнікам кінамеханіка, прыбіральшчыцай у клубе, пасля загадчыкам Заварацкага клуба, пасля яго закрыцця працавала ў Дзеркаўшчынскай бібліятэцы. Зараз на пенсіі.



Сцепаніда Лупач. *Фота Зміцера Лупача.*



Дзеркаўшчына. Царква святога Панцеляймона. *Фота Зміцера Лупача.*

# Адышла ў вечнасць маці біскупа Уладзіслава Бліна

**8 чэрвеня адышла ў вечнасць Гэлена Блін, маці біскупа Віцебскага на пенсіі Уладзіслава Бліна. Спачылай было 87 гадоў.**

Пахавальная святая Імша адбудзецца 11 чэрвеня ў 16.00 па беларускім часе ў парафіяльным касцёле святых Мікалая і Добрага Пастыра ў Слезіне каля Коніна (Польшча). Адрас парафіі: Слезін, вул. Касцёльная, 22.

8 чэрвеня ў касцёле свв. Сымона і Алены ў Мінску Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч узначаліць святую Імшу ў інтэнцыі спачылай.

*«Для цябе, Мамуся, што туліла мяне да свайго сэрца, Мамуся — як шмат каштуе гэта слова...*

*Матулька — Ты дала жыццё мне, колькі ночак не спала над маёй калыскай, калі быў хворы, калі быў малы...*

*Матуля — рукі Твае залатыя і сэрца, адкрытае для кожнага, так шмат каштуюць.*

*Матуля — Ты частка жыцця майго, таму хацеў бы прытуліцца да сэрца Твайго.*

*Але яно ўжо не б'ецца... Я нямею, Мамуся.*

*Для цябе, Матуля, найпрыгажэйшыя кветкі, букет з найлепшых сноў, у якім змагу яшчэ раз пачуць Твой прыгожы, чулы голас і адчуць дотык Тваіх аксамітных рук... Дзякую табе, Мама!»*, — гэтыя словы прысвяціў у гонар сваёй маці біскуп Блін.

Вечны адпачынак дай ёй, Пане…

*Крыніца: Catholic.by*

Віншаванкі

Дарагую, любімую матулю, бабулю і прабабулю

Веру Лаўрэнцьеўну Юшчынскую

**Віншуем з 80-годдзем!**

Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом,
Улыбок светлых на лице
И солнечных лучей в награду.
Неумолимо мчат года,
Их задержать не в нашей власти…
Так пусть же будет так всегда:
Чем больше лет, тем больше счастья.

*Дачка, зяць, унучка, праўнукі Саша і Віталік*

# Настаўнікі, што сталі героямі

*На "Белсаце" – фільм пра антысавецкіх падпольшчыкаў.*

**"Глыбоцкая змова" – знятая на замову нашага тэлеканалу стужка знанага беларускага рэжысёра Валерыя Мазынскага, якая распавядае пра падпольную моладзевую арганізацыю "Саюз беларускіх патрыётаў" (Глыбокае–Паставы), што дзеяла па заканчэнні Другой сусветнай вайны.**




Пасля таго, як Беларусь вызвалілі ад нацысцкіх захопнікаў, паступова ў краіне адраджалася нармальнае жыццё. Аднак з пэўнымі "асаблівасцямі". Гэтак, сістэма адукацыі была цалкам зрусіфікаваная. "Калі немцы нам не забаранялі вучыцца і ведаць сваю гісторыю, культуру, то што ж такое, чаму цяпер мы не можам гэтага рабіць?" – згадвае адна з гераінь фільму. Сябры **"Саюзу беларускіх патрыётаў"** – маладыя настаўнікі – змагаліся з павальнаю русіфікацыяй ды імкнуліся выхаваць нацыянальна свядомых дзяцей, хай і ў савецкіх школах.

Савецкія ўлады адназначна ўспрымалі падпольную арганізацыю як варожую. У 1947 годзе савецкія спецслужбы разграмілі "Саюз беларускіх патрыётаў", арыштаваўшы большасць сябраў. Трое актывістаў пачулі смяротны вырак, аднак яго замянілі на 25 гадоў зняволення. На розныя тэрміны, ад 8 да 20 гадоў, асудзілі яшчэ каля 40 чалавек.

### Тады – "ворагі народу", цяпер – "пятая калона"

Рэжысёр кінастужкі **Валерый Мазынскі** гаворыць, што пра гісторыю стварэння і паразы "Саюзу беларускіх патрыётаў" ён даведаўся ў 1990-я гады. Сёння гэтая тэма, на думку творцы, актуальная і надзённая. "Мне здаецца, што сёння яна самая важная для Беларусі. Гэта – школа. Гэта – настаўнік. Не бацькі, а менавіта настаўнік. І гэтая гісторыя пра тое, як за тры гады свядомыя настаўнікі, былыя выпускнікі Віленскай гімназіі, здолелі ўкласці сваім навучэнцам столькі ды такога, што тыя нават сёння, адыходзячы ў лепшы свет, згадваюць сваіх настаўнікаў самымі лепшымі словамі, да гэтага часу яны засталіся патрыётамі сваёй радзімы", – гаворыць Валерый Мазынскі.

Ці здольныя беларускія школы цяпер да такога выхавання? "Сёння школа рыхтуе людзей з паняткам жывата і капейчыны, больш – нічога. Гэта трагедыя. Гэта людзі ніякія, якія будуць займацца толькі самі сабою і не будуць бачыць вакол нечага большага", – гаворыць рэжысёр.

Валерый Мазынскі распавёў журналістам "Белсату", што ў здымках фільму бралі ўдзел школьнікі менавіта таго рэгіёну, дзе адбываліся гістарычныя падзеі вакол "Саюзу беларускіх патрыётаў". Аднак зняць хоць некалькі фрагментаў для фільму ў памяшканні школаў не ўдалося. "Вядома, якая сітуацыя цяпер у краіне, але ў настаўніках сядзіць такі жудасны страх, што, як кажуць, іншым разам і не смешна. Яны баяцца ўжо адзін аднаго. З іншага боку – гэта працяг падзеяў 60-гадовай даўніны, і гледзячы на сітуацыю, у якой жылі тыя хлопчыкі ды дзяўчаткі – яна не змянілася і сёння. Яны ахвяравалі сабою дзеля бел-чырвона-белага сцяга, дзеля Пагоні, беларускай мовы. Сёння моладзь таксама вымушаная прыносіць сябе ў ахвяру за тыя самыя каштоўнасці, пра якія мы гаворым у сваім фільме", – дадае Валерый Мазынскі.

### Уладзімір Халіп: Савецкай прапагандзе не ўдалося зрабіць з іх ворагаў

Кінадраматург **Уладзімір Халіп** гаворыць, што яшчэ з дзяцінства ведаў пра змову глыбоцкіх маладзёнаў. "Я з Ушацкага раёну, гэта нашыя суседзі, і ў нашым краі хадзілі пра іх чуткі, шмат хто добра пра іх ведаў. Усе ставіліся да іх як да сапраўдных герояў. Не было ніякага асуджэння, хоць увесь час савецкая прапаганда рабіла з іх ворагаў народу – маўляў, фашысты пакінулі тут сваё падполле", – распавядае Уладзімір Халіп.

"Калі да мяне звярнуўся Валерый Мазынскі ды прапанаваў супрацу, я ахвотна пагадзіўся. Яшчэ жывыя некаторыя ўдзельнікі тых падзеяў. Мы сустрэліся з цудоўнымі людзьмі. Я ўпэўнены, што шмат хто пераканаецца ў тым, якія чыстыя крышталёвыя душы ў гэтых людзей. А той, хто абвесціў іх ворагамі народу, свядома здзейсніў злачынства, каб зганьбіць самых лепшых з беларусаў", – дадаў кінадраматург. На ягоную думку, удзельнікі "Саюзу беларускіх патрыётаў" на паўстагоддзя апярэдзілі свой час, бо зразумелі, што беларусам дзеля захавання нацы патрэбная ўласная незалежная краіна.

**Як самаарганізоўвалася беларуская моладзь, як схопленых актывістаў дапытвалі ў КДБ, а пазней – судзілі ў савецкім судзе; успаміны чальцоў СБП пра ідэалы і дзейнасць арганізацыі, пераслед і зняволенне – у новым фільме "Глыбоцкая змова". Стужку можна будзе пабачыць у новым тэлевізійным сезоне, што распачынаецца ў верасні.**

*Зміцер Ягораў, belsat.eu*



Кадр з фільма «Глыбоцкая змова».

# Усе былі зачараваныя яе голасам

■ Яўген Самсонаў



Выпускніца Глыбоцкай гімназіі Анастасія Ламан прымае ўдзел у конкурсе прыгажосці "Прыгажуня Весніка" (на сайце catholicnews.by) . Бясспрэчна, яна - сама прыгажосць. Як і бясспрэчна тое, што мелі рацыю, калі запрасілі глыбачанку Насцю Ламан спяваць у Чырвоным касцёле. Усе вернікі падчас яе спеваў былі зачараваныя яе голасам, сціпласцю і прыгажосцю. Літаральна анёлак, які сышоў з нябёс .

# Продаж білетаў на тэатральную праграму «Славянскага базару» пачаўся 3 чэрвеня

**З 3 чэрвеня пачаўся продаж білетаў на мерапрыемствы «Славянскага базару», якія пройдуць на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, у канцэртнай зале «Віцебск» і абласной філармоніі. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў цэнтры культуры «Віцебск».**

З 3 чэрвеня можна будзе набыць білеты на тэатральную праграму, канцэрты XI Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу, праект «Фестываль без межаў», рок-праграму «Дым над вадой» Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна, шоу віртуозаў «Двайная энергія. Ад фрэйлехса да джаза» і іншыя канцэрты. Усяго на трох пляцоўках запланавана правесці каля 15 мерапрыемстваў, 6 з якіх - спектаклі.

Праект «Тэатральныя сустрэчы» карыстаецца ў віцебскай публікі асаблівай папулярнасцю. Спектаклі праходзяць пры аншлагу, «лішняга білеціка» не дастаць. У афішы XXII Міжнароднага форуму мастацтваў 6 спектакляў. Цэны на білеты вар'іруюцца ад Br180 тыс. да Br300 тыс. Самыя дарагія білеты на монаспектакль Максіма Аверына «Усё пачынаецца з любові», які адкрывае тэатральную праграму фестывалю 13 ліпеня.

У «Тэатральных сустрэчах – 2013» прымуць удзел Тэатр на Паўднёвым Захадзе (Масква), тэатральны цэнтр «Шанс» (Масква), Сучасны тэатр антрэпрызы (Масква).

XXII Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» пройдзе з 11 па 15 ліпеня.

*БЕЛТА*

# Падводнае паляванне – толькі ў дазволеных вадаёмах

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь першараднае значэнне надаецца ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны. Штотыдзень дзяржінспектарамі на тэрыторыі краіны спыняюцца сотні розных парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.**

У перыяд часу з 3 па 9 чэрвеня 2013 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўлена 9 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, 3 чэрвеня 2013 года каля 24 гадзін ночы інспектарамі міжрайінспекцыі на возеры Трумбецкае Пастаўскага раёна паблізу в. Войцехі затрыманы мясцовы жыхар, які ажыццяў лоўлю рыбы пры дапамозе сетак. Матэрыялы накіраваныя ў суд Пастаўскага раёна.

8 чэрвеня каля 7 гадзін раніцы інспектарамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Чачалі Глыбоцкага раёна затрыманы жыхар г. Глыбокае, які здабываў рыбу сеткай, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд. Афарміўшы адно парушэнне, рэйдавая група міжрайінспекцыі накіравалася ажыццяўляць кантроль за тэрыторыяй Глыбоцкага раёна, наведалі цэлы шэраг вадаёмаў, інспектары правялі больш 20 гутарак з грамадзянамі пра выкананне санітарнага стану берагоў і месцаў адпачынку. Каля 15 гадзін інспектары міжрайінспекцыі прыбылі на возера Доўгае, якое з'яўляецца гідралагічным заказнікам рэспубліканскага значэння. Возера Доўгае з'яўляецца нацыянальным здабыткам рэспублікі. Яно самае глыбокае, вада ў ім крышталёва чыстая. У возеры водзіцца шмат рыбы і іншых водных жывёл. Чысціня вады і мноства рыбы прыцягвае да яго дзясяткі рыбаловаў, у тым ліку і браканьераў розных масцяў і з рознымі прыстасаваннямі. Усім рыбаловам-аматарам вядома, што падводнае паляванне дазволена, як і лоўля рыбы вудай, але падводнае паляванне неабходна ажыццяўляць толькі ў дазволеных вадаёмах, такіх у Глыбоцкім раёне 17 азёр. Возера Доўгае ў іх лік не ўваходзіць, і падводная рыбалка на возеры забаронена, аднак вельмі часта прыезджыя грамадзяне ігнаруюць закон. Вось і ў гэты дзень інспектары каля гадзіны высочвалі, а затым вылавілі на возеры аматара падводнай рыбалкі і затрымалі жыхара г. Мінска грамадзяніна Н.

Затрыманы парушальнік паводзіў сябе агрэсіўна, спрабаваў схаваць стрэльбу для падводнага палявання і незаконна здабытую рыбу (двух шчупакоў), але ўсе яго неправамерныя дзеянні былі спынены інспектарамі. Стрэльба і рыштунак канфіскаваны, а матэрыялы накіраваны ў раённы суд. Парушальніка чакае прыстойны штраф і магчымая канфіскацыя стрэльбы і рыштунка.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян выконваць прыродаахоўнае заканадаўства. Таксама пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 «кругласутачна», маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

